*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі

# БЮЛЕТЭНЬ
## ЦЭНТРАЛЬНАЙ ПАСЕЎНАЙ КАМІСІІ

№ 9 15 МАЯ № 9



МЕНСК 1933

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БЮЛЕТЭНЬ
Цэнтральнай Пасеўнай Камісіі

№ 9
15 мая
1933 г.



# Забясьпечыць неадкладны і рашучы пералом у тэмпах і якасьці сяўбы

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

ЦК КП(б)Б і СНК БССР падкрэсьліваюць, што, ня гледзячы на наяўнасьць у гэтым годзе ўсіх спрыяючых умоў для бальшавіцкага правядзеньня веснавой сяўбы і загадзя прынятыя зусім канкрэтныя меры з боку ЦК і СНК па падрыхтоўцы і разгортваньні масавай сяўбы,—першыя даныя сьведчаць аб зусім ганебных тэмпах сяўбы як у цэлым па рэспубліцы, так і ў асаблівасьці па раду раёнаў: Гарадоцкім, Сураскім, Магілеўскім, Шклоўскім, Плешчаніцкім, Бабруйскім, Чырвонапольскім, Старадароскім, Церахоўскім і інш.

Першае баявое заданьне ЦК і СНК —засеяць на 25 красавіка 500 тыс. га аўса—сарвана. Паводле зводкі Наркамзему на гэты дзень засеяна ўсіх культур усяго 95.000 га або 3,8 проц. да ўсяго пляну.

Першыя рэзультаты сяўбы паказваюць, што кіраўніцтва большасьці раёнаў не разумее таго, што бальшавіцкае правядзеньне сяўбы ў гэтым годзе азначае ня толькі поўнасьцю і ў тэрмін выканаць пасеўныя пляны, але, што асабліва важна, забясьпечыць якаснае правядзеньне сяўбы. У пачатку правядзеньня сельска-гаспадарчых работ ужо маюць месца масавыя агрэхі ў ворыве, дрэнная задзелка насеньня, рэзкае зьніжэньне норм высеву ў радзе калгасаў і саўгасаў, пасеў пасьля першага ворыва і без падрыхтоўкі зябліва, пасеў непратручаным насеньнем і г. д.

Палявыя работы, якія пачаліся ў аднаасобным сэктары, у сваю чаргу сыгналізуюць аб тым, што цэлы рад арганізацый па-ранейшаму ігнаруюць ролю аднаасобнага сэктару ў выкананьні плянаў веснавой пасеўнай кампаніі. Гэта ігнараваньне асабліва рэзка праяўляецца якраз у тых раёнах, дзе ўдзельная вага аднаасобнага сэктару яшчэ асабліва вялікая (Бабруйскі, Мазырскі, Пятрыкоўскі, Магілеўскі і інш.), што нельга расцаніць інакш як спробу простага зрыву зусім дакладных і ясных указаньняў партыі і ўраду па гэтым важнейшым пытаньні.

Саўгасы, якія ў гэтым годзе значна лепш забясьпечаны ўсім неабходным для пасьпяховага правядзеньня сяўбы (кіруючымі кадрамі, рабочай сілай, мэханічнай і жывой цягавай сілай, насеньнем і г. д.) цягнуцца ў хвасьце, што ўказвае на адсутнасьць бальшавіцкай барацьбы за пасьпяховае правядзеньне сяўбы з боку дырэктароў і партыйных арганізацый саўгасаў і на адсутнасьць сапраўды апэрацыйнага кіраўніцтва імі з боку дырэктароў трэстаў і Упаўнаркамсаўгасаў.

Такое становішча ў самым пачатку разгортваньня масавай сяўбы, якое ставіць пад падгрозу бальшавіцкія тэмпы і якасьць сяўбы вясны гэтага году, мае месца толькі таму, што ў радзе партыйных і савецкіх арганізацый раёнаў і ў некаторых цэнтральных арганізацыях яшчэ ня вытручаны да канца элемэнты апартуністычных, благадушных адносін да сяўбы. У радзе месц пануюць самасупакоенасьць і стаўка на самацёк, што гаворыць аб адсутнасьці бальшавіцкай мабілізаванасьці на

выкананьне дырэктыў партыі і ўраду і наяўнасьці гніла-лібэральных апартуністычных адносін да спроб кулацкіх элемэнтаў сарваць сяўбу ў тэрміны, вызначаныя партыяй і ўрадам з боку раду раённых арганізацый, дырэктароў саўгасаў і МТС, праўленьняў калгасаў і паасобных партыйных ячэек.

ЦК і СНК прапануюць:

1. Наркамзему, Упаўнаркамсаўгасаў, райкомам, РВК, дырэктаром МТС і саўгасаў і начпалітаддзелам забясьпечыць неадкладна масавы выхад у поле ўсіх калгасаў, саўгасаў і аднаасобнікаў. Устанавіць дзенныя заданьні для кожнага калгасу, саўгасу, вытворчага вучастку і для кожнай брыгады з тым, каб, штодзённа правяраючы выкананьне гэтых заданьняў, дабіцца сканчэньня сяўбы ва ўстаноўленыя тэрміны.

2. Наркамзему, Упаўнаркамсаўгасаў, усім раённым, партыйным і савецкім арганізацыям неадкладка праверыць выкананьне якасных паказальнікаў па ворыве і сяўбе, як гэта зроблена Менскім і Гомельскім гаркомамі з тым, каб у далейшым быў устаноўлен сапраўдны кантроль над тым, як праводзяцца мерапрыемствы партыі па павышэньні ўраджайнасьці. У тых выпадках (як гэта паказалі факты праверкі), калі пашкодніцку зьніжаюцца нормы высеву (па аўсу да 6 пудоў на га замест 10—12 пудоў—прыгарадныя гаспадаркі Менскага раёну, Пятрыкоўскі і інш.), неадкладна прыцягваць да самай суровай судовай адказнасьці. Таксама павінны быць прыняты меры па зьнішчэньні масавых агрэхаў у часе ворыва, недапушчэньні сяўбы пасьля першага ворыва, засеву непратручаным насеньнем, дрэннай задзелкі насеньня і г. д.

3. Неадкладна ўзмацніць барацьбу супроць маючых месца выпадкаў раскрадваньня насеньня ў радзе саўгасаў і калгасаў. Папярэдзіць, што, апрача фактаў простага раскрадваньня насеньня, гэта раскрадваньне праводзіцца ў часе сяўбы шляхам рэгуляваньня работы сявяркі ў бок штучнага зьмяншэньня выхаду насеньня, празьмерна рэдкай пасадкі бульбы і г. д. Усё гэта прыводзіць да простага кулацкага шкодніцтва ў справе барацьбы за ўраджайнасьць і зьніжае рэзультаты сяўбы. ЦК і СНК прапануюць ускласьці адказнасьць за якасьць пасеву і нормы высеву на брыгадзіраў, старшых рабочых саўгасаў, папярэдзіўшы іх, што за парушэньне норм высеву і за дрэнную апрацоўку яны нясуць строгую судовую адказнасьць, як за зрыў важнейшых дзяржаўных мерапрыемстваў.

4. Адзначаючы выпадкі шкодніцкай расстаноўкі трактараў (Лепель, Чашнікі), якая выяўляецца ў тым, што пад трактарнае ворыва адведзены непадрыхтаваныя вучасткі з нізкай глебай, у той час, як вучасткі з выскою глебай адводзяцца пад коннае ворыва,—ЦК і СНК патрабуюць ад партыйных арганізацый, дырэктароў МТС і саўгасаў, праўленьняў калгасаў строгага нагляду за правільным разьмеркаваньнем вучасткаў пад трактарнае і коннае ворыва, дабіўшыся рацыянальнага скарыстаньня трактарнага парку.

ЦК і СНК прапануюць сакратаром райкомаў, дырэктаром і начпалітаддзелам МТС і саўгасаў, дырэктаром трактарных аб'яднаньняў т. т. Пушчыну, Грэбенчыку і Дубоўскаму неадкладна праверыць расстаноўку трактараў па калгасах і саўгасах, адвод зямельных вучасткаў для работы трактараў, поўнасьцю забясьпечыўшы выхад усяго трактарнага парку ў поле. Устанавіць штодзённы кантроль над работай трактарнага парку і ў бліжэйшыя дні дабіцца высокіх якасных паказальнікаў работы трактараў і трактарыстаў (эканомія гаручага, зьнішчэньне простояў, барацьба з паломкамі трактараў, выпрацоўка нормы і г. д.).

5. За яўна нездавальняючую работу па сяўбе, за допушчэньне правалу выкананьня заданьняў ЦК па пасеве аўса —абвясьціць вымову дырэктаром саўгасаў „Абчак"—Мандаркевічу, „Красьніца"—Чарняку, імя Варашылава—Майсейка.

Указаць дырэктаром Аршанскага і Магілеўскага саўгастрэстаў, што з іх боку няма канкрэтнага апэрацыйнага кіраўніцтва работай, якое-б забясьпечыла выкананьне пастаноў ЦК аб веснавой сяўбе, і папярэдзіць іх, што калі ў бліжэйшыя дні ў саўгасах іх трэстаў ня будзе дасягнута рашучага пералому ў ходзе сяўбы, поўнасьцю забясьпечваючага выкананьне пастаноў ЦК, яны будуць прыцягнуты да суровай партыйнай адказнасьці.

6. За неналаджанасьць належнага ўліку ходу пасеўнай і непрадстаўленьне ва ўказаныя ўрадам тэрміны зводак аб пасеве— абвясьціць вымову загадчыкам райза наступных раёнаў: Аршанскага, Дубровенскага, Сураскага, Плешчаніцкага, Бялыніцкага, Жлобінскага, Ельскага, Мазырскага, Рэчыцкага, Слуцкага і Старадароскага.

Указаць сакратаром райкомаў і старшыням РВК названых раёнаў, што адсутнасьць рэгулярнай справаздачнасьці аб ходзе сяўбы сьведчыць аб адсутнасьці апэрацыйнага кіраўніцтва з боку гэтых раённых арганізацый і прапанаваць ім арганізаваць такую пастаноўку работы, якая забясьпечыла-б своечасовы і дакладны ўлік ходу сяўбы.

7. Прапанаваць рэдакцыям цэнтральных газэт неадкладна ўстанавіць чырвоную і чорную дошкі для перадавых і адстаючых у сяўбе раёнаў, МТС, саўгасаў і калгасаў.

8. ЦК і СНК лічаць, што ўсякія спасыланьні на няспрыяючае надвор'е якое нібы перашкаджае масаваму разгортваньню сяўбы, па сутнасьці прыкрываюць апартуністычныя антыпартыйныя тэндэнцыі і граюць на руку кулаку, які імкнецца зацягнуць сяўбу і тым самым сарваць барацьбу партыі за павышэньне ўраджайнасьці.

ЦК і СНК папярэджваюць усе партыйныя арганізацыі і кіраўнікоў МТС, саўгасаў і калгасаў аб іх выключнай адказнасьці за правядзеньне сяўбы і што ЦК і СНК будуць сачыць за ходам сяўбы ў кожным раёне, у кожнай МТС, у кожным саўгасе і ў далейшым не пацерпяць ніякіх адступленьняў ад пастаноў партыі і ўраду як у адносінах тэрмінаў сяўбы, так і па правядзеньні мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці.

# Аб працоўнай дысцыпліне ў калгасах

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

Праверыўшы выкананьне дырэктыў ЦК і СНК аб арганізацыі работ ў пэрыяд сяўбы і працоўнай дысцыпліне ў калгасах, ЦК і СНК адзначаюць, што ў радзе калгасаў ужо пры разгары палявых работ мае мейсца выключна недапушчальнае парушэньне працоўнай дысцыпліны, па сутнасьці зрываючае пасьпяховы і своечасовы сеў.

Замест выхаду ў поле ў звычайны для сялян час—са сьвітаньнем маюць мейсца выпадкі выхаду на работу а 9-10 і нават 11 гадз. раніцы.

ЦК і СНК прапануюць РК КП(б)Б і РВК правесьці рашучую барацьбу з позьнім выхадам і спазьненьнем калгасьнікаў на работу, з дробна-буржуазным разгільдзяйствам і лодырніцтвам, устанавіць нагляд і кантроль выкананьня рашэньняў ЦК і СНК аб арганізацыі работ і працоўнай дысцыпліне ў кожным калгасе, брыгадзе, забясьпечваючы раньні выхад калгасьнікаў у поле.

# Аб рабоце калгаснай ячэйкі

## З пастановы ЦК КП(б) Украіны ад 29 красавіка 1933 г.

ЦК лічыць, што практыка вылучэньня шматлікіх упаўнаважаных абкомаў і райкомаў, а таксама масавая мабілізацыя камуністаў з абласных і гарадзкіх цэнтраў на вёску для правядзеньня розных гаспадарча-палітычных кампаній у тым выглядзе, як гэта практыкуецца да гэтага часу, сябе не апраўдвае. Замест умацаваньня калгаснай ячэйкі і падняцьця яе аўтарытэту існуючая сыстэма пасылкі людзей на вёску і мэтады іх работы не ўмацоўваюць, а абязьлічваюць і падмяняюць калгасную ячэйку.

Камуністы, прысланыя з абласных, гарадзкіх і раённых цэнтраў на тую ці іншую гаспадарчую кампанію на вёску, нярэдка на вельмі доўгія тэрміны (паўтары-тры месяцы), самі знаходзяцца па-за партыйнай арганізацыяй, па-за яе кантролем і кіраўніцтвам.

ЦК УсеКП(б) і тав. Сталін у сваіх неаднаразовых выступленьнях паставілі перад усімі партыйнымі арганізацыямі як адну з важнейшых задач, стварэньне на вёсцы моцнай, баяздольнай, аўтарытэтнай бальшавіцкай калгаснай ячэйкі.

Выходзячы з гэтай важнейшай дырэктывы ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)У пастанаўляе:

Зьмяніць практыку масавай пасылкі ўпаўнаважаных абкомаў, РПК і РВК для правядзеньня розных сельска-гаспадарчых кампаній, дапускаючы пасылку ўпаўнаважаных толькі ў асабліва выключных выпадках і то ў абмежаванай колькасьці, з ліку членаў і кандыдатаў бюро абкомаў, райпарткомаў, членаў прэзыдыумаў, аблвыканкомаў і райвыканкомаў.

Абавязаць абкомы сумесна з райкомамі, начальнікамі палітаддзелаў МТС адабраць з ліку ўпаўнаважаных абкомаў, райкомаў, а таксама з ліку іншых пасланых імі ў дапамогу сельскім арганізацыям на пасеўную кампанію найбольш моцных, апраўдаўшых сябе на рабоце, палітычна-пісьменных, ведаючых арганізацыйна-партыйную работу таварышоў для выкарыстаньня іх на ўвесь час веснавой сяўбы і ўборачнай кампаніі (ня менш, як на 2-4 месяцы) у якасьці сакратароў калгасных ячэек.

РПК сумесна з начальнікамі палітаддзелаў МТС намеціць ячэйкі, якія ў першую чаргу адчуваюць патрэбу ва

ўмацаваньні, падабраць адпаведныя кандыдатуры з тым, каб усе адабраныя таварышы не пазьней 15 мая прыступілі да работы.

Усіх астатніх камуністаў, прысланых з абласных, гарадзкіх і раённых арганізацый у дапамогу сельскім арганізацыям, апраўдаўшых сябе на рабоце, уключыць на час сяўбы і ўборачнай кампаніі (на тэрмін ня менш 2-4 месяцаў) у склад калгасных партячэек у якасьці іх радавых членаў, якія павінны быць пастановай партыйнай ячэйкі разьмеркаваны для работы па вытворчых брыгадах.

ЦК указвае, што задачай РПК, палітаддзелаў МТС і сакратароў калгасных ячэек зьяўляецца ў бліжэйшы-ж час дабіцца таго, каб ячэйка стала сапраўды баявым палітычным цэнтрам на вёсцы, забясьпечыла-б разгортваньне арганізацыйна-партыйнай і масава-палітычнай работы вакол сяўбы і ўборачнай кампаніі, правільную расстаноўку камуністаў і камсамольцаў на важнейшых вучастках сяўбы і ўборкі (брыгадзіраў, сяўцоў, аратых і г. д.), стварэньне моцнага бальшавіцкага ядра ў кожнай брыгадзе, выяўленьне беспартыйнага, адданага калгаснаму будаўніцтву актыву, арганізацыю работы з імі і згуртаваньне яго вакол партыйнай ячэйкі.

Аднэй з асноўных задач райкомаў, начальнікаў палітаддзелаў і калгасных ячэек павінна быць умацаваньне ўнутрыпартыйнай работы ў калгаснай ячэйцы стварэньне моцнай бальшавіцкай дысцыпліны ў ёй, правільнае разьмеркаваньне партыйных нагрузак і сыстэматычная праверка кожнага камуніста па яго вытворчай і грамадзкай рабоце, заслухоўваючы іх справаздачы на бюро ячэйкі і партсходах.

Сакратары калгасных ячэек, вылучаныя са складу ўпаўнаважаных на час сяўбы і ўборачнай кампаніі, абавязаны падрыхтаваць сябе зьмену з лепшых мясцовых камуністаў, здольных у далейшым кіраваць калгаснай ячэйкай, праводзячы з імі работу па ўзьняцьці іх палітычнага і арганізацыйнага вопыту. У вырашэньні гэтай задачы павінны прыняць самы актыўны ўдзел начальнікі палітаддзелаў МТС.

Зьнішчыць практыку аб'яднаньня камуністаў некалькіх калгасаў у адну партыйную ячэйку, на справе адарваную ад калгаснай вытворчасьці. Ва ўсіх калгасах, дзе ёсьць неабходная колькасьць членаў партыі, стварыць статутныя ячэйкі.

У тых калгасах, дзе няма выстарчальнай колькасьці членаў партыі, або зусім няма камуністаў, прызначыць парторганізатара. Задачай гэтага парторганізатара зьяўляецца пастаноўка сыстэматычнай работы сярод калгаснага актыву, растлумачэньне рашэньняў партыі і ўраду і намячэньне мерапрыемстваў па правядзеньні іх у жыцьцё, папярэдняе абмеркаваньне асноўных пытаньняў, намечаных да правядзеньня на агульна-калгасных і брыгадных сходах, у групе актыву, прапрацоўка практычных вытворчых пытаньняў жыцьця калгасу (аб доглядзе каня, аб якасьці сяўбы, аб працоўнай дысцыпліне, аб арганізацыі спаборніцтва, аб выкананьні калгасам абавязацельстваў перад дзяржавай, аб ахове калгаснай уласнасьці), падбор найбольш здольных і растучых калгасьнікаў на вылучэньне іх у якасьці кіраўнікоў паасобных зьвеньняў калгаснага будаўніцтва.

Для ўзмацненьня масава-палітычнай работы ЦК прапануе РПК, нач. палітаддзелаў і сакратаром калгасных ячэек вылучыць у кожнай калгаснай брыгадзе парторганізатара. У тых брыгадах, дзе ёсьць ня менш 3-х камуністаў, стварыць партгрупу.

Задачай парторганізатараў у брыгадах і партыйных груп зьяўляецца пастаноўка партыйна-арганізацыйнай і масава-палітычнай работы, разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж зьвеньнямі, трактарнымі калёнамі, паасобнымі калгасьнікамі і брыгады з брыгадай, правядзеньне нарад, гутарак з паасобнымі групамі калгасьнікаў (старымі калгасьнікамі, якія маюць вялікі гаспадарчы вопыт, калгасьніцамі, моладзьдзю, ударнікамі), павышэньне аўтарытэту брыгадзіра, дапамога брыгадзіру ў правільнай расстаноўцы ў брыгадзе калгасьнікаў, устанаўленьне моцнай працоўнай дысцыпліны, хуткае выпраўленьне ўсіх выяўленых недахопаў, выкананьне штодзённых заданьняў і норм выпрацоўкі.

Там, дзе калгасная ячэйка ня можа вылучыць па ўсіх брыгадах работнікаў у якасьці парторганізатараў, абавязаць

абкомы і райкомы к 1 студзеня 1934 г. скончыць іх падбор з ліку членаў партыі гарадзкіх, абласных і раённых цэнтраў.

ЦК прапануе абкомам, РПК і начальнікам палітаддзелаў МТС устанавіць ва ўсіх сельскіх партарганізацыях адзіны партдзень два разы ў месяц. Адзіны партдзень павінен праходзіць не па раёну ў цэлым, а па раёну дзейнасьці адпаведнай МТС (для розных МТС могуць назначацца партдні ў розны час). Устанавіць на партсходах сыстэматычную праверку выкананьня пастаноў папярэдніх сходаў.

Для арганізацыі марксысцка-ленінскай вучобы ў калгасных ячэйках прапанаваць абкомам замацаваць за палітаддзеламі МТС штатных прапагандыстаў РПК, усклаўшы на іх задачу арганізаваць палітдні, інструктаж гутаршчыкаў і чытальшчыкаў у брыгадах, забясьпечыць работу школ калгаснага актыву.

Абавязаць абкомы пасылаць сыстэматычна спэцыяльных дакладчыкаў, лектароў для прачытаньня ў калгасных ячэйках дакладаў, лекцый па палітычных, гаспадарчых, тэарытычных і міжнародных пытаньнях.

Абавязаць культпроп ЦК КП(б)У арганізаваць у кожнай калгаснай ячэйцы спэцыяльныя бібліятэчкі як па пытаньнях партыйнай палітыкі, так і па пытаньнях агратэхнікі.

Абавязаць культпропы абкомаў забясьпечыць снабжэньне ўсімі навінамі палітычнай масавай літаратуры і акуратную дастаўку газэт калгасным ячэйкам.

ЦК прапануе калгасным партячэйкам арганізаваць сыстэматычную работу сярод калгасьніц, вылучыць ва ўсіх партячэйках арганізатараў-калгасьніц. Работу дэлегацкіх і агульных сходаў калгасьніц накіраваць на практычнае вырашэньне вытворчых пытаньняў жыцьця калгасу, на паляпшэньне культурна-бытавых умоў калгасьніц. Партячэйкам забясьпечыць вылучэньне калгасьніц-актывістак на кіруючую работу ў брыгадах і калгасах.

ЦК абавязвае РПК і калгасныя партячэйкі арганізаваць масава-палітычную работу сярод аднаасобнікаў.

Абавязаць аргінстр ЦК КП(б)У і абкомаў у сваёй арганізацыйна-партыйнай рабоце аддаваць выключную ўвагу пастаноўцы інфармацыі зьнізу ўверх і зьверху ўніз, абмену вопытам арганізацыйна-партыйнай работы калгасных ячэек, не абмяжоўваючыся толькі вывучэньнем папяровых матар'ялаў, якія паступаюць у абкомы і апарат ЦК, забясьпечыўшы вывучэньне самага жыцьця і практыкі работы калгасных партыйных ячэек. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на перанясеньне вопыту партбудаўніцтва, партыйнай і масава-палітычнай работы вытворчай ячэйкі ў калгасную ячэйку.

# Аб ходзе сяўбы ў прыгарадных гаспадарках

## ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б

ЦК адзначае, што побач з паасобнымі гаспадаркамі, якія пасьпяхова выканалі заданьне ЦК і СНК аб сканчэньні сяўбы аўса да 27 красавіка (прыгарадныя гаспадаркі—абутковай фабрыкі, заводу „Бальшавік“, ф-кі „Кастрычнік“, „Чырвоны Транспартнік“ у Менску, прыгарадная гаспадарка ЗРК „X Кастрычнік“ у Рэчыцы і інш. каапгасы), большасьць каапгасаў сарвалі выкананьне заданьняў ЦК і СНК, у рэзультаце чаго на 27 красавіка плян сяўбы аўса выканан толькі на 30 проц.

Ганебна сарвалі сяўбу прыгарадныя гаспадаркі Віцебску (засеяна 4 га аўса) і Магілеву (ніводнага га аўса).

Той факт, што рад каапгасаў, маючы аднолькавыя ўмовы, выканалі плян сяўбы аўса ў тэрмін і нават датэрмінова, яшчэ раз падцьвярджае, што выкананьне баявога заданьня па пасеву ў прыгарадных гаспадарках залежыць выключна ад таго, як на гэтую справу мабілізаваны партыйныя арганізацыі.

ЦК падкрэсьлівае, што ўжо ў першыя дні сяўбы ў прыгарадных гаспадарках выяўлен рад недахопаў (зрыў установленых тэрмінаў, зьмяншэньне норм высеву, дрэнная апрацоўка глебы, пасеў непратручаным насеньнем і г. д.), якія павінны паслужыць сур'ёзным сыгналам для ўсіх кіраўнікоў і партыйных арганізацый прадпрыемстваў і каапгасаў з тым, каб неадкладна іх выправіць у барацьбе за далейшае разгортваньне сяўбы, дабіўшыся датэрміновага скончэньня і высокаякасных паказальнікаў сяўбы па ўсіх культурах.

ЦК папярэджвае трыкутнікі прадпрыемстваў і каапгасаў, партячэйкі і палітківаўнікоў каапгасаў, упаўнаважаных ЦК і ЦСПСБ, што тэрміны сяўбы і мерапрыемствы па павышэньні ураджайнасьці, установленыя пастановай ЦК і СНК ад 21 красавіка 1933 г. („Аб падрыхтаванасьці прыгарадных гаспадарак да масавага разгортваньня сяўбы“—„Зьвязда“ 23 красавіка), а таксама пастановы ЦК і СНК аб ходзе сяўбы („Зьвязда“ 29 красавіка), зьяўляюцца баявой праграмай партыйных арганізацый па правядзеньні сяўбы ў прыгарадных гаспадарках і па стварэньні харчовай базы для снабжэньня рабочых.

ЦК з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што ніякіх адхіленьняў ад установленых тэрмінаў сяўбы, ад установленых норм ураджайнасьці з кожнага га ЦК не пацерпіць і з тымі, хто ня здолее забясьпечыць баявое іх правядзеньне, ЦК будзе распраўляцца самым бязьлітасным чынам, як са зрыўшчыкам рабочага снабжэньня.

# Аб ходзе сяўбы па прыгарадных гаспадарках ЗРК шчотачнага камбінату — Віцебск і каапгасу ЗРК абутнікаў—Менск

## Пастанова ЦК КП(б)Б

I.

Каапгас „Чырвоны маяк“ ЗРК абутнікаў—Менск—быў перадан у сьнежні 1932 г. ЗРК абутнікаў у зусім нездавальняючым, безгаспадарчым стане. Каапгас, маючы 315 га ворыва і 117 га гароднай зямлі, ня меў нават насеньня. З перадаленых 60 коняй—40 былі зусім непрацаздольнымі, с.-г. інвэнтар быў раскідан і не адрамантаван. Каапгас налічваў страт звыш 100 тыс. руб.

Праманаваць т. Лібо прасачыць за выкананьнем гэтага пункту пастановы і далажыць Прэзыдыуму ЦКК праз 5 дзён.

7. Абавязаць т. Стрыго, дырэкцыю саўгасу і ўпаўнаваж. па ліквідацыі прарываў і арганізацыі сяўбы неадкладна; прыняць меры да стварэньня нармальных умоў жыцьця рабочых саўгасу ў інтэрнаце шляхам яго ацяпленьня і абсталяваньня сталамі, табурэткамі, ложкамі, матрацамі, умывальнікамі і г.д.

8. Прызнаць, што з боку Бялыніцкай РКК-РСІ праяўлены гніла-лібэральныя адносіны да ўскрытых у саўгасе прарываў, ня выяўлены і ня прыцягнуты да адказнасьці канкрэтныя віноўнікі стварыўшагася ў саўгасе становішча і ўся справа ня ўзьнята на належную палітычную вышыню, каб на гэтай справе мабілізаваць рабочых на выкананьне вытворчых заданьняў саўгасу.

Даручыць сел. гасп. групе рассьледваць дададткова гэту справу і выявіць канкрэтных віноўнікаў прарываў у саўгасе і ўнесьці на прэзыдыум прапановы да 15 мая.

Пастанову апублікаваць у бюлетэні Цэнтрапасяўкому.

Старшыня ЦКК КП(б)Б
Нарком РСІ Бел. **Лычоў**

# Аб ходзе падрыхтоўкі да плодагароднай кампаніі 1933 году

**Пастанова Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б і Калегіі НК РСІ БССР ад 21 крас. 1933 г**

Заслухаўшы даклад тав. Абражэвіча аб становішчы ходу падрыхтоўкі да плодагароднай кампаніі, Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б і Калегія НК РСІ Бел. адзначаюць, што Белплодагароднінай і Белкаапплодагароднінай спушчаны дырэктывы сваім нізавым нарыхтоўчым арганізацыям па кантрактацыі гароднiны-садавіны са значным спазьненьнем (2/IV, а бланкі дагавароў спушчаны Белплодагароднінай—4-7|IV красавіка —і Белкаапплодагароднінай—11-13/IV). Шэраг раёнаў да гэтага часу не давялі плянаў кантрактацыі гародніны-садавіны да с/саветаў і пастановы ўраду аб кантрактацыі гародніны-садавіны не давялі да калгасаў, калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў. Вакол гэтага гаспадарча-палітычнага пытаньня не арганізавана працоўная грамадзкасьць вёскі (Менскі, Барысаўскі, Жлобінскі, Гарадоцкі, Смалявіцкі раёны). З боку Камзагспа, Белплодагародніны і Белкаапплодагародніны адсутнічае жывое кіраўніцтва, дапамога і кантроль раённым загатавіцельным арганізацыям у правядзеньні кантрактацыі гародніны-садавіны. Маюцца выпадкі, калі асобныя РВК, даводзячы пляны да с|саветаў па кантрактацыі гародніны-садавіны, не далі дырэктыў с|саветам аб дачы цьвёрдых заданьняў кулацка-заможным гаспадаркам па гародніне-садавіне (Быхаў). Загатоўчымі арганізацыямі не заключаны гаспадарчыя ўмовы з саўгаснымі трэстамі па здачы гародна-садовай прадукцыі саўгасамі.

Падрыхтоўка тары да плодагароднай кампаніі па некаторых відах знаходзіцца пад пагрозай зрыву: БПГ нарыхтавана на 15|III—бочак 30 проц., мяхоў 19 проц., цьвікоў—10,5 проц., абручнага жалеза 2,7 проц., шпагату—4,5 проц., Белплодагародніне забясьпечана бочкамі 36 проц., скрынкамі—40 проц., мяхамі—1,7 проц., цьвікамі—4,2 проц., абручн. жалезам—1,7 проц. Белплодгародтара павінна вырабіць новых бочак 62 тыс. штук, выраблена на 1|IV—6,5 тыс., клёпкай вытворчасьць нагружана ня больш як на 1 мес., майстэрань адчынена 8 замест 11, рабочай сілай майстэрні ўкамплектаваны на 42,2 проц. Выкананьне пляну па вырабу тары знаходзіцца пад пагрозай зрыву. Дакладнага ўліку аб наяўнасьці тары па раённай пэрыфэрыі ў Белплодгародніне і Белкаапплодгародніне няма.

Раённыя загатавіцельныя канторы ў большасьці не ўкамплектаваны адпаведнымі кадрамі.

Да пабудовы, рамонту складачных памяшканьняў, першапачатковых перапрацоўчых прадпрыемстваў ня прыступлена.

Выходзячы з вышэйадзначанага, Прэзыдыум ЦКК і Калегія НК РСІ Бел. п а с т а н а ў л я ю ц ь:

1. Прапанаваць гарсаветам і РВК, пад адказнасьць нам. старшынь па загатоўках, у 5-цідзённы тэрмін давесьці пляны кантрактацыі гародніны-садавіны да с|с (там дзе гэткія яшчэ не даведзены); прасачыць за сваечасовасьцю давядзеньня плянаў кантрактацыі с|с да калгасаў, паселішчаў і дачы цьвёрдых заданьняў кулацка-заможным гаспадаркам па гародніне і садавіне.

Адначасова абавязаць загатавіцельныя арганізацыі плодагародніны прыступіць да кантрактацыі гародніны і садавіны. Разгарнуць масава-растлумачальную працу сярод калгасаў, калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў аб кантрактацыі імі гародніны-садавіны, дабіўшыся поўнага выкананьня пляну кантрактацыі к вызначанаму тэрміну (15|IV-33 г.). Гаркомам, РК КП(б)Б гарсаветам, РВК, с|с і партячэйкам—аказаць практычную дапамогу загатоўчым

плодагародным арганізацыям у правядзеньні імі кантрактацыі плодагародніны.

2. Абавязаць Упаўкамзагспа т. Красоўскага, БПГ—тав. Панамарова, БКПГ—тав. Зелічонка—камандыраваць у ращаючыя і адстаючыя раёны адказных работнікаў цэнтральнага апарату для дапамогі раённым арганізацыям у правядзеньні кантрактацыі гародніны-садавіны.

3. Прапанаваць Белплодгародніне, пад адказнасьць тав. Панамарова і БКПГ—пад адказнасьць т. Бабіхава і загадчыкаў раённых загаткантор—забясьпечыць сканчэньне кантрактацыі гародніны-садавіны да 15|V. Адначасова папярэдзіць, што ў выпадку невыкананьня плянаў кантрактацыі садавіны-гародніны к вызначанаму тэрміну, яны будуць прыцягнуты да судовай адказнасьці.

4. Прапанаваць Упаўн. НКСаўгасаў і Наркамзему даць паказаньні саўгасным трэстам і саўгасам аб неадкладным заключэньні імі ўмоў з плодагароднымі арганізацыямі па здачы саўгасамі плодагародніны.

5. Абавязаць БПГ, БКПГ арганізаваць працу па рамонту тары з такім разьлікам, каб забясьпечыць сканчэньне рамонту тары на працягу другога квартала. Адначасова прыняць меры к мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў па збору тары, захаваньню тары і звароту спажыўцам.

6. Прапанаваць БПГ і БКПГ у дэкадны тэрмін наладзіць вучот наяўнасьці і патрэбнасьці тары па райканторах, прыцягнуўшы да суровай адказнасьці загадчыкаў райкантор, да гэтага часу не прадставіўшых вучоту па тары.

7. Прапанаваць Лесбелу, пад адказнасьць тав. Шапіра, Лесаснабзбыту і ВОЛТ'у забясьпечыць выпрацоўку і водпуск клёпкі для плодагароднай кампаніі БПГ, БКПГ, згодна пастановы СНК на працягу другога і пачатку 3-га квартала.

Адначасова абавязаць БПГ і БКПГ выканаць плян саманарыхтоўкі клёпкі ў паказаны тэрмін.

8. Абавязаць Дзяржплян, Стальзбыт і Мэтызаб'яднаньне забясьпечыць водпуск абручнага жалеза, заклёпак і цьвікоў, БПГ і БКПГ на працягу 2-г і пачатку 3-га кварталу, згодна разнрадкі і пастановы СНК Бел.

9. Прапанаваць БПГ, БКПГ перагледзець вытворчыя пляны ўласных прадпрыемстваў па вырабу тары ў напрамку максымальнага пашырэньня і падняцьця іх вытворчасьці, адначасова абавязаць Белкалеспрамсаюз, Аршанскі Мясакамбінат і Белкааптранс выканаць заключаныя ўмовы з БПГ БКПГ па вырабу тары (бочак) к вызначанаму ўмовамі тэрміну.

10. Прапанаваць БПГ, БКПГ безадкладна прыступіць да арганізацыі, рамонту прыёмачных пунктаў, складачных памяшканьняў і першапачатковых пераапрацоўчых прадпрыемстваў, забясьпечыўшы заканчэньне гэтай працы не пазьней 10|VII-33 г.

11. Папярэдзіць усе калгасы, саўгасы, каапгасы, ЗРК, ЦРК, ОРС-ы, Торфраб-коопы, Лесрабкоопы і інш. спажыўсыстэму, што заключэньне кантрактацыйных дагавароў з загатоўчымі арганізацыямі Плодагародніны не вызваляя іх ад мабілізацыі маючыхся ў іх унутраных рэсурсаў, як падрыхтоўкі тары і інш. для засолкі і пераапрацоўкі плодагародніны (пасьля выкананьня пляну здачы плодагародніны па кантрактацыі) для ўласнага спажываньня, а таксама для прадажы на калгасных базарах.

12. Прапанаваць РКК РСІ ўзяць пад свой непасрэдны кантроль ход падрыхтоўкі да плодагароднай кампаніі. Перагледзець якасны склад загатавіцельнага апарату плодагародных арганізацый, ачысьціўшы яго ад клясава-чуждага элемэнту, прыняўшы захады да ўкамплектаваньня апарату праверанымі адпаведнымі кадрамі. Вынікі паведаміць ЦКК НК РСІ к 1|VI-33 г.

13. Даручыць тав. Абражэвічу мець сыстэматычны нагляд за ходам падрыхтоўкі да плодагароднай кампаніі загатавіцельнымі плодагароднымі арганізацыямі.

14. Гэту пастанову апублікаваць у друку.

Старшыня ЦКК КП(б)Б
Нарком РСІ БССР **Лычоў.**

# Аб становішчы парткіраўніцтва работай Царыкоўскага і Нізкаўскага сельспажыўтаварыстваў Касьцюковіцкага раёну

## Пастанова ЦК КП(б)Б

Заслухаўшы даклады сакратароў Царыкоўскай і Нізкаўскай партячэек т. т. Старычкова і Старасьценкі, старшынь гэтых сельспажыўтаварыстваў т. т. Захарчанкі і Ягоранкі і паведамленьне загадчыка сэктарам каапэрацыі аргінстру ЦК КП(б)Б т. Гінзбург,—ЦК КП(б)Б лічыць, што Царыкоўскае і Нізкаўскае сельспажыўтаварыствы не перабудавалі сваёй работы ў адпаведнасьці з пастановамі верасьнёўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і што як партыйныя арганізацыі—ячэйкі, РК, так і каапэрацыйныя—сельспажыўтаварыствы, райсаюз не зразумелі таго выключнага значэньня для пасьпяховага правядзеньня пасеўнай кампаніі і ўмацаваньня калгасаў, якое мае работу і становішча сельспажыўтаварыства.

Асноўны недахоп работы гэтых сельспажыўтаварыстваў заключаецца ў тым, што яны працуюць па-старому, гандлююць толькі тымі таварамі, якія яны атрымліваюць з базы РСС і не праяўляюць ніякай ініцыятывы і гібкасьці ў мабілізацыі дадатковых таварных рэсурсаў з мясцовых крыніц, ня гледзячы на значныя магчымасьці, якія ёсьць у раёне (наяўнасьць раду прамысловых арцеляй, магчымасьць разгортваньня новых відаў вытворчасьці на базе мясцовага сырцу). Сельспажыўтаварыствы не вывучаюць попыту насельніцтва, ня раяцца з пайшчыкамі, якія тавары яны жадалі-б купіць, і мае месца недапушчальнае ігнараваньне іх патрабаваньняў, практыка прымусовага асартымэнту і безадказнасьць сельспажыўтаварыстваў у галіне забесьпячэньня насельніцтва самымі неабходнымі таварамі. Ні ў якай ступені ня ўлічаны ўзрастаючыя запатрабаваньні спажыўца-калгасьніка.

ЦК КП(б)Б канстатуе бязьдзейнасьць і безадказнасьць гэтых сельспажыўтаварыстваў і Касьцюковіцкага РСС у справе падрыхтоўкі да абслугоўваньня калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў у часе веснавой сяўбы.

Нічога ня зроблена ў выкананьні асноўнай задачы сельспажыўтаварыства—арганізацыі тавараснабжэньня ў часе сяўбы, а таксама ў справе дапамогі калгасам у арганізацыі ясьляў і грамадзкага харчаваньня на палёх. Сельспажыўтаварыствы не забясьпечылі вытворчых запатрабаваньняў сельскай гаспадаркі неабходнымі таварамі, як каламазь, мазута, вяроўкі і інш.

ССТ не праводзяць ніякай масавай работы сярод пайшчыкаў вакол канкрэтных задач іх работы. Крамкамісіі і каапбюро бязьдзейнічаюць. Яны не арганізавалі абгаварэньня на сходах каапактыву, пайшчыкаў адозвы ССТ „Мачыха“ (Палтаўшчына) і ня ўключыліся ва ўсебеларускі конкурс на лепшае ССТ па абслугоўваньні сяўбы.

ЦК КП(б)Б адзначае, што з боку Касьцюковіцкага РСС і БКС праяўлены саноўна-панскія адносіны да кіраўніцтва ССТ. Жывы інструктаж і апэрацыйнае кіраўніцтва падмяняюцца папяровым кіраўніцтвам. Тым, што пытаньні калькуляцыі, а таксама пералічэньні з паявых капіталаў у цэнтралізаваныя фонды РСС сканцэнтравала ў сябе, ён абмежаваў гаспадарчую самастойнасьць ССТ, што адбіваецца на арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні ССТ і стварае абязьлічку ў справе барацьбы са спэкуляцыйнымі тэндэнцыямі ва ўстанаўленьні цэн.

ЦК адзначае, што Касьцюковіцкі РК КП(б)Б за ўвесь час не заслухаў ні разу дакладу хоць-бы аднэй партячэйкі, таксама сельспажыўтаварыства і РСС па пытаньнях таваразвароту і работы ССТ.

1. ЦК КП(б)Б прапануе сакратаром Царыкоўскай і Нізкаўскай партячэек т. т. Старычкову і Старасьценку і старшыням гэтых сельспажыўтаварыстваў т. т. Ягоранку і Захарчанку забясьпечыць:

а) разгортваньне таваразваротаў, мабілізацыю дадатковых таварных рэсурсаў шляхам разгортваньня няплянавых закупак, заключэньня дагавароў з арцелямі і садзейнасьці арганізацыі новых відаў вытворчасьці па лініі прамкаапэрацыі, калгасаў на базе мясцовага сырцу і ўцілю.

б) больш разгарнуць гандаль дастатковымі таварамі (начыньне, мэбля, гаспадарчыя тавары, галянтарэя і інш.) і забясьпечыць бесьперабойнае снабжэньне насельніцтва таварамі першай неабходнасьці (соль, газа, запалкі і інш.). За зрыў у забясьпечаньні насельніцтва гэтымі таварамі ЦК будзе прыцягваць вінаватых да суровай партыйнай адказнасьці.

в) практыкаваць пэрыядычныя нарады з асобнымі групамі пайшчыкаў, асабліва з жанчынамі на пытаньні асартымэнту і якасьці тавараў, вядучы ўпартую барацьбу за ходкі, патрэбны асартымэнт, добрую якасьць тавараў і правільныя цэны і дабіцца паскарэньня таваразвароту. Абавязаць БКС і РСС не дапускаць засылкі з баз непатрэбнага асартымэнту, а ССТ у кожным такім выпадку тавараў ня прымаць і справы накіроўваць у судовыя органы.

2. У часе сяўбы арганізаваць развозны гандаль, латкі, якія прадавалі-б тавары на палёх у часе перапынку. Забясьпечыць пераважны продаж дэфіцытных тавараў калгасьнікам-ударнікам, а таксама лепшым пасеўшчыкам-аднаасобнікам, поўнасьцю падпарадкаваўшы работу ССТ і крам задачам якаснага правядзеньня сяўбы і ўмацаваньня калгасаў. Неадкладна сумесна з праўленьнямі калгасаў прыняць рашучыя захады па арганізацыі ясьляй і грамадзкага харчаваньня на палёх, забясьпечыўшы інвэнтаром, тэрмасамі, начыньнем і інш.

Зараз-жа разгарнуць шырокую масавую работу па абгаварэньні адозвы сельспажыўтаварыства „Мачыха“ і аб уключэньні ва ўсебеларускі конкурс на лепшае ССТ на абслугоўваньні сяўбы. Дабіцца згуртаваньня вакол ССТ актыву з лепшых калгасьнікаў-ударнікаў, якія штодзенна дапамагалі-б у рабоце і кантралявалі-б работу ССТ. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на ўцягненьне жанчын у актыў сельспажыўтаварыства—крамкамісія, каапбюро, каапупаўнаважаны і інш.

3. ЦК прапануе ССТ праводзіць рашучую барацьбу з растратамі, пакражамі ў сельскай каапэрацыі. Павысіць клясавую пільнасьць камуністаў і бязьлітасна выганяць з апарату ССТ і крам пралезшых туды клясавых ворагаў. ЦК прапануе Царыкоўскаму ССТ у бліжэйшы час дабіцца бясстратнасьці работы ССТ за кошт павялічэньня таваразвароту і зьніжэньня выдаткаў звароту і інш.

4. ЦК прапануе партячэйкам і сельспажыўтаварыствам дабіцца рашучага пералому ў справе выкананьня плянаў загатовак. Выключную ўвагу сканцэнтраваць на выкананьні плянаў закупкі збожжа, якія знаходзяцца ў гэтых ССТ пад яўнай пагрозай зрыву (на 15/IV Царыкоўскае ССТ выканала 4,1 проц. пляну, Нізкаўскае—3,5 проц. пляну). Партячэйкі павінны дабіцца перадавой ролі камуністаў і камсамольцаў-калгасьнікаў у справе продажу збожжа дзяржаве.

5. ЦК зварочвае ўвагу ЦК ЛКСМБ на неабходнасьць узмацненьня ўдзелу КСМ у рабоце сельскай каапэрацыі і вылучэньня лепшых камсамольцаў для работы ў каапэрацыі як у якасьці кіраўнікоў, так і работнікаў прылаўку.

6. ЦК абавязвае Касьцюковіцкі РСС—пад адказнасьць Фралянкова, БКС—пад адказнасьць Царонка і ўсе іншыя РСС неадкладна перабудаваць сваю работу па кіраўніцтве ССТ, пераключыцца ад папярова-дэклярацыйных мэтадаў на жывое кіраўніцтва ўсімі галінамі работы ССТ, ператварыўшы іх у сапраўды самастойныя гаспадарчыя адзінкі.

На працягу месячнага тэрміну ўкамплектаваць інструктарскі склад БКС і РСС у адпаведнасьці з пастановамі верасьнёўскага пленуму ЦК УсеКП(б).

7. ЦК патрабуе ад Касьцюковіцкага РК КП(б)Б і ўсіх іншых РК КП(б)Б і сельпартячэек забясьпечыць пастаяннае кіраўніцтва пытаньнямі разгортваньня таваразвароту і работы сельспажыўтаварыстваў, узмацніўшы іх вытрыманымі кадрамі.

„Партарганізацыі, якія ня ўмеюць выкарыстаць ССТ як вагар умацаваньня калгасаў ня выконваюць пастаноў партыі аб калгасным будаўніцтве і аб разгортваньні савецкага гандлю (з перадавога артыкулу Праўды ад 7/IV-33 г.).

# Аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі да вясны 1933 г.

**Пастанова Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б і Калегіі НК РСІ Бел. ад 13 красавіка 1933 г.**
**Па праверцы выкананьня пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 26/XI-32 г.**

Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б і Калегія НК РСІ Бел. адзначаюць, што пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 26|XI-1932 г. аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў да вясны 1933 г. НКЗемам і Уп. НКСаўгасаў ня выканана.

Па НКЗему плян падрыхтоўкі ст. мэханікаў, мэханікаў па с.-г. машынах, брыгадзіраў, трактарыстаў і інш. трактарацэнтрамі на 1|IV-32 г. выканан на 60,8 проц.

Па жывёлаводаб'яднаньню—загадчыкаў і брыгадзіраў МТКФ і СТКФ, вэтсанітараў і інш. (5140) падрыхтавана і рыхтуецца 55 проц. пляну.

Па падрыхтоўцы старшынь калгасаў 45 раёнамі атрыманыя імі заданьні выкананы на 81 проц., па рахункаводах 45 раёнамі—на 100 проц., па брыгадзірах-паляводах 48 раёнамі—на 55 проц., па ст. канюхах—32 р-ны выканалі на 94 проц.

Па сыстэме Уп. НКСаўгасаў па зьвестках на 10|IV—плян выканан на 55 проц.

За гэтымі зусім нездавальняючымі колькаснымі паказчыкамі скрываюцца яшчэ больш агідныя якасныя паказчыкі: спазьненьне з адчыненьнем курсаў, скарачэньне тэрмінаў вучобы, скажэнь не без таго кепскіх праграм, дрэнны падбор курсантаў з выпадковых і пад час клясава-варожых людзей, замест лепшых сацыяльна праверанных праізводственьнікаў—рабочых саўгасаў і калгасьнікаў, не забясьпечана 30 проц. норма падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі жанчын, незабясьпечаньне курсаў праверанымі выкладчыцкімі кадрамі, дрэнныя матар'яльна-бытавыя ўмовы работы курсаў, як-та: памяшканьні, інтэрнаты, сталовыя і г. д., у выніку чаго мелі месца нежаданьне ісьці на курсы перабоі ў вучобе і ўцечка курсантаў. НКЗем і НКСаўгасаў важнейшымі пытаньнямі праграм, вучэбных плянаў, мэтадалёгічных паказаньняў зусім не займаліся. У радзе праграм і навучальных плянаў нязначнае месца адведзена альбо зусім не прадугледжаны пытаньні азнаямленьня курсантаў з асноўнымі момантамі арганізацыі саўгаснай і калгаснай вытворчасьці і асноўных вытворчых працэсаў. пытаньні агратэхнікі (у прыватнасьці—комплекса пытаньняў па ўздыму ўраджайнасьці). Гэтыя праграмы, з якіх частка распрацавана НКЗемам СССР, б. Калгасцэнтрам, Трактарацэнтрам—НКЗемам Бел. не правяраліся і мэханічна штампаваліся.

Усё гэта зьявілася вынікам паўнейшай недаацэнкі, бязьдзейнасьці і адсутнасьці кіраўніцтва і кантролю з боку былых кіраўнікоў сэктару кадраў, НКЗ, НКСаўгасаў, Райза і суадпаведных партыйных і камсамольскіх арганізацый у гэтай справе, маючай вялізарнае гаспадарча-палітычнае значэньне.

Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б і Калегія НК РСІ Бел. пастанаўляюць:

1. Прапанаваць НКЗему ў зьвязку з невыкананьнем намечаных плянаў падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў масавай кваліфікацыі—арганізаваць дадаткова ў пэрыяд з 15 па 30 чэрвеня 5—10-цідзённыя масавыя курсы падрыхтоўкі калгаснага вытворчага актыву (брыгадзіраў-паляводаў і г. д.)—для лепшага правядзеньня чарговых вытворчых працэсаў (сіласаваньня, догляд за пасевамі, уборка ўраджаю) і лепшага выкарыстаньня складаных с.-г. машын—з правядзеньнем гэтай работы ў асноўным без адарваньня ад вытворчасьці.

2. Прапанаваць НКЗему забясьпечыць не пазьней як да 15 мая распрацоўку, зацьверджаньне і спуск на месца пля-

на-праграм, мэтадалёгічных паказаньняў па правядзеньню паказанага ў п. 1 курсаў.

3. Прапанаваць НКАсьветы і НКЗ уключыць у паказаную ў п. 1 работ настаўніцкія кадры ШКМ, сел. гаспадарчых Вузаў і Тэхнікумаў, а таксама студэнтаў 2-3 курсаў—у парадку вытворчай практыкі.

4. Прасіць ЦК ЛКСМБ працягнуць камсамол да самага актыўнага ўдзелу ў гэтай рабоце.

5. Улічваючы вопыт мінулых гадоў і для папярэджаньня зрыву работы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі ў зімовы пэрыяд 1933-34 г., прапанаваць НКЗему і Уп. НКСаўгасаў неадкладна прыступіць да распрацоўкі праграм, вучэбных плянаў, мэтадалёгічных паказаньняў, пляна фінансаваньня з тым, каб забясьпечыць іх зацьверджаньне не пазьней 1 верасьня 1933 году.

6. НКЗему і НКСаўгасаў устанавіць асноўныя тыпы кадраў масавай кваліфікацыі, належачых да падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі ў зімовы пэрыяд 1933-34 г. суадпаведна асноўным вытворчым тыпам с. г. БССР.

7. Прыдаючы першараднае значэньне справе снабжэньня падрыхтоўваемага калгаснага актыву ў дастатковай колькасьці дробнымі, кароткімі і яснымі падручнікамі, прапанаваць НКЗему і НКСаўгасаў—адначасова з устанаўленьнем асноўных тыпаў кадраў масавай кваліфікацыі, распрацоўкай праграм, вучэбных плянаў і мэтадалёгічных паказаньняў—забясьпечыць праз навукова дасьледчыя і навучальныя інстытуты па сел. гасп. БССР распрацоўку стандартных падручнікаў і зацьвердзіць іх не пазьней 1 жніўня, а БДВ забясьпечыць іх выпуск не пазьней 15 лістапада.

8. Абавязаць НКЗ і НКСаўгасаў забясьпечыць у будучым бесперапынную працу па арганізацыі і кіраўніцтву падрыхтоўкай кадраў масавай кваліфікацыі неаслабную праверку гэтай работы.

9. Лічучы ў далейшым недапушчальнымі наглядаўшыеся да гэтага часу хаос, паралелізм, самацёк і кустаршчыну ў справе навучальнага мэтадалёгічнага кіраўніцтва падрыхтоўкай кадраў масавай кваліфікацыі, прапанаваць НКЗему сканцэнтраваць кіраўніцтва гэтай працай у аддзеле тэпрапаганды, абавязаўшы кіраўнікоў спэцыяльных сэктароў НКЗ аказваць аддзелу тэхпрапаганды неабходную дапамогу ў арганізацыі і правядзеньні курсаў.

10. Прасіць ЦКК УсеКП(б)—НК РСІ СССР зьвярнуць увагу на недастатковае арганізацыйнае і матадалёгічнае кіраўніцтва справай падрыхтоўкі кадраў з боку адпаведных аддзелаў НКЗ СССР і НКСаўгасаў.

11. Прапанаваць НКЗему прыцягнуць да правядзеньня вышэйпаказанай працы сельска-гаспадарчыя навуковыя і навучальныя ўстановы БССР, ствараючы вакол справы ўнядрэньня сацыялістычнай с.-г. навукі ў шырокія калгасныя масы моцны шырокі актыў вучоных, спэцыялістаў, лепшых у гэтай галіне раённых работнікаў і перадавых калгасьнікаў.

12. Абавязаць НКЗем і НКСаўгасаў у найкарацейшы тэрмін устанавіць дакладны вучот у справе падрыхтоўкі кадраў масавай кваліфікацыі, устанавіць кантроль за тым, каб на курсы вылучаліся сацыяльна-правераныя перадавыя рабочыя і калгасьнікі, за якасьцю іх падрыхтоўкі і за правільным іх выкарыстаньнем на вытворчасьці. Устанавіць дакладны вучот і праверку выкладчыцкага складу.

13. Прапанаваць РКК-РСІ сумесна з РК праверыць работу членаў Бюро РК, на якіх, згодна пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 25|ІІ-33 г. ускладзена адказнасьць за падрыхтоўку кадраў масавай кваліфікацыі, прыцягваючы да адказнасьці вінаватых у бязьдзейнасьці і ў далейшым сыстэматычна правяраць работу па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў масавай кваліфікацыі для калгасаў і саўгасаў.

Старшыня ЦКК КП(б)Б
Нарком РСІ БССР **Лычоў**

# Усім райпасеўкомам—ліст ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб грамадзкім харчаваньні

Грамадзкае харчаваньне ў калгасах і саўгасах мае вялікае значэньне для поўнага і рацыянальнага выкарыстаньня рабочай сілы ў калгасах і саўгасах і пасьпяховага правядзеньня сяўбы.

З боку большасьці РК, РВК не аддана гэтай справе належнай увагі, асабліва Горацкага, Вузьдзенскага, Клічаўскага раёнаў, якія замест разгортваньня масавай падрыхтоўкі работы на мясцох абмежаваліся габінэтным складаньнем плянаў і мэханічным іх давядзеньнем да калгасаў і саўгасаў, у выніку чаго ёсьць факты, калі калгасы ня ведаюць аб тым, што ў іх вызначана арганізацыя сталовых, і ніякай падрыхтоўчай работы не праводзяць.

Такія адносіны з боку РК і РВК прывялі да зрыву падрыхтоўкі кадраў, марудымі тэмпамі ідзе арганізацыя харчовых фондаў і падрыхтоўка памяшканьняў для сталовых.

Лічым такое становішча работы, як простае ігнараваньне дырэктыў партыі і ўраду ў гэтым пытаньні. Прапануем усім пасеўкомам тэрмінова заслухаць даклады загадчыкаў райза і райсаюзу аб разгортваньні імі грамадзкага харчаваньня на час сяўбы і праверыць на мясцох:

1) Ход падрыхтоўкі кадраў для сталовых;

2) Стварэньне харчпвых фондаў у калгасах і саўгасах;

3) падрыхтоўку памяшканьня;

4) забесьпячэньне інвэнтаром і начыньнем сталовай;

5) як разгортваецца работа па арганізацыі сталовак у калгасах.

За сваечасовае выкананьне гэтай работы на мясцох пэрсанальную адказнасьць ускладаем на ўпаўнаважанага РК і РВК, старшынь сельсаветаў і калгасаў.

Упаўнаважаным ЦК і СНК узяць пад свой кантроль ход гэтай работы ў раёне.

Сакратар ЦК КП(б)Б **Гікало.**

Старшыня СНК БССР **Галадзед.**

# Аб недабраякасным рамонце трактараў і залежу прыцэпнога інвэнтару па Шклоўскай МТС

**Пастанова Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б і Калегіі НК РСІ БССР ад 16/IV-33 г.**

Адзначаючы на падставе інфармацый РКК РСІ факты недабраякаснага і шкодніцкага рамонту трактараў, матораў і чарвячных валаў Шклоўскай МТС з боку Горацкай і Клімавіцкай МТС; матораў Бялыніцкай МТС з боку Горацкай МТМ; наяўнасьць залежу з 1930-1931 г. 7 дзіскавых 24-х радных сявярак і 15 чатырохкорпусных плугоў у Шклоўскай МТС (якая ўкамплектавана трактарамі „ФП“, а плугі прадназначаны да „інтэраў“ і „ХТЗ“),—Прэзыдыўм ЦКК КП(б)Б і Калегія НК РСІ БССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць Горацкай і Клімавіцкай РКК РСІ за недабраякасны і шкодніцкі рамонт трактараў, матораў і чарвячных валаў, псаваньне і замену пасобных частак кускамі жалеза—прыцягнуць канкрэтных вінаватых з Горацкай і Клімавіцкай МТМ да суровай партыйнай і судовай адказнасьці. Аб выніках у дэкадны тэрмін паставіць у сьвядомасьць ЦКК РСІ.

2. Папярэдзіць старшынь Горацкай і Клімавіцкай РКК РСІ, што далейшае працягваньне падобных агіднасьцяй у працы Горацкай і Клімавіцкай МТМ пацягне за сабою суровае партыйнае спагнаньне і старшынь РКК РСІ за бязьдзейнасьць і павярховы кантроль за выкананьнем дырэктыў партыі па рамонтнай кампаніі да веснавога севу.

3. Абавязаць Белльнотрактарацэнтр пад адказнасьць т. Пушчына неадкладна камандыраваць спэцыяліста ў Шклоўскую МТС і на працягу 5 дзён поўнасьцю пераглядзець і адрамантаваць паўторна недабраякасна адрамантаваныя трактары.

4. Прапанаваць Белльнотрактарацэнтру перакінуць з Шклоўскай МТС лішнія трактарныя плугі і дзіскавыя сявяркі ў МТС, дзе маюцца патрэбы ў іх.

5. Прапанаваць Бел. Аддз. Бульба-і Ільна-трактарацэнтрам ўзмацніць тэхнічна-кіруючы кадр Клімавіцкай і Горацкай МТМ больш здольнымі работнікамі.

6. Прапанаваць усім РКК РСІ улічыць урокі Горацкай, Клімавіцкай і Лепельскай МТМ і ў выпадку абнаружэньня падобных зьявішч неадкладна прымаць меры да іх зьнішчэньня і прыцягваньня вінаватых у зрыве якаснага рамонту трактараў і с.-г. інвэнтару да суровай партыйнай і судовай адказнасьці.

Старшыня ЦКК КП(б)Б—
Нарком РСІ БССР **Лычоў.**

# Ліст Культпропу ЦК КП(б)Б і НКЗ Беларусі рэдактаром раённых і калгасных газэт і загадчыкам Райза

У выкананьне пастановы ЦК КП(б)Б аб выданьні да пасеўнай кампаніі макетаў калгасных і брыгадных насьценгазэт, культпроп ЦК КП(б)Б і Наркамзем БССР выдалі і рассылаюць у адрас усіх райза БССР наступную колькасьць макетаў, „сыгнальных лісткоў“, „папярэджаньняў“ і інш. выданьняў:

1. 400 тыс. экзэмпляраў макетаў брыгадных насьценгазэт.
2. 100 тыс. экзэмпляраў макетаў агульна-калгасных насьценгазэт.
3. 25.000 экз. „сыгнальных лісткоў“ для калгасьнікаў.
4. 25.000 экзэмпляраў „сыгнальных лісткоў“ для рассылкі па аднаасобным сэктары.
5. 25.000 экз. „дошак гонару і ганьбы“.
6. 25.000 экз. „папярэджаньняў“ (для аднаасобнага сэктару).
7. 25.000 экз. „папярэджаньняў“ для калгасьнікаў.
8. 25.000 экз. „чырвоных вестак“.

Адначасова друкуюцца і хутка будуць разасланы макеты агульна-калгасных і брыгадных насьценгазэт на польскай мове для польскіх нацыянальных калгасаў, брыгадныя і агульна-калгасныя макеты на яўрэйскай мове для яўрэйскіх нацыянальных калгасаў і макеты насьценгазэт на літоўскай мове для літоўскіх нацыянальных калгасаў.

Раённыя зямельныя аддзелы разам з рэдакцыямі раённых газэт павінны пад пэрсанальную адказнасьць загадчыка Райза і рэдактара раённай газэты забясьпечыць дастаўку на працягу аднаго дня пасыльнымі макетаў насьценгазэт, „сыгнальных лісткоў“, „папярэджаньняў“, „чырвоных вестак“ і інш. непасрэдна ў калгасы, улічыўшы колькасьць брыгад у тым або іншым калгасе, яго магутнасьць, наяўнасьць у калгасе насьценгазэт, частату іх выхаду і г. д.

Рэдакцыі раённых газэт, разгортваючы апэрацыйна-масавую работу на палёх веснавой сяўбы, павінны мабілізаваць рэдкалегіі нізавога калгаснага друку на больш часты выпуск насьценак, дабіваючыся выхаду ў кожным калгасе і саўгасе, у кожнай брыгадзе баявой, бальшавіцкай, апэрацыйнай насьценгазэты.

**Культпроп ЦК КП(б)Б.**

**Наркамзем БССР.**



# Загад № 72 па Беларускай Рэспубліканскай канторы „Заготлён“ ад 28 красавіка 1933 г.

Ня гледзячы на мае неаднаразовыя распараджэньні і папярэджаньні тэлеграфна, праз друк, перагаворы па тэлефону і загады аб выкананьні пляну кантрактацыі ільну і канапель у вызначаны тэрмін, шэрагам загадчыкаў міжраённых і раённых аддзяленьняў, а таксама райупаўнаважаных Заготлён (Чашнікі т. Левін, Ветка т. Селязьнёў, Клімавічы т. Крэсьлін, Магілёў т. Філонаў, Бялынічы т. Грамакоўскі, Мазыр т. Красны, Рагачоў т. Фарбераў, Быхоў т. Іткін, Хойнікі т. Янкоўскі, Клічаў т. Якушаў, Асіпавічы т. Заскінд, Жлобін т. Хількевіч) праявілі поўную недысцыплінаванасьць і безадказнасьць да выкананьня гэтай важнейшай кампаніі, выканаўшы свае пляны на 25 красавіка ўсяго ад 31 да 80 проц., чым сарвалі выкананьне ў вызначаны тэрмін (25 красавіка 33 г.) рэспубліканскага пляну кантрактацыі ільнопяньмапрадукцыі, ня выканаўшы гэтым самым пастанову СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 12|III-1933 года. На 25|IV рэспубліканскі плян кантрактацыі выканан па ільнавалакну на 89,5 проц. і па ільнонасеньні на 92,8 проц., а па сыстэме Заготлён валакна—93,5 проц. і семя 96,2 проц.

Асабліва адзначаю злачынную бязьдзейнасьць у справе кантрактацыі ільнопянькапрадукцыі з боку райупаўнаважаных Заготлён па Клімавіцкаму раёну т. Крэсьліна, Клічаўскаму т. Якушова і Бялыніцкаму т. Грамакоўскага і Загадчыка Рагачоўскага міжраённага аддзяленьня т. Фарберава, у выніку чаго па гэтых раёнах плян кантрактацыі на 25|IV выканан усяго па Клімавіцкаму раёну на 53 проц., Клічаўскаму на 5 проц., Рагачоўскаму на 76 проц., Быхаўскаму на 45 проц., Жлобінскаму на 31 проц., а па Бялыніцкаму раёну на 25|IV—зусім ня было прыступлена да кантрактацыі.

За праяўленую бязьдзейнасьць і безадказнасьць у справе кантрактацыі, як важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі, накіраванай на пасьпяховае правядзеньне веснавога севу ільну і канапель, райупаўнаважаных Заготлён па Клімавіцкаму раёну т. Крэсьліна, па Клічаўскаму т. Якушова і па Бялыніцкаму раёну т. Грамакоўскага з працы зьняць і аддаць пад суд. Справу аб Загадчыку Рагачоўскім міжраённым аддзяленьнем Заготлён т. Фарбераву перадаць Рагачоўскай РКК КП(б)Б. Аднесьці выдаткі, якія панесены на пасылку неаднаразовых тэлеграм, а таксама асабістыя перагаворы з імі па тэлефону за кошт тав. тав. Фарберава і тав. Крэсьліна.

Райупаўнаважанага Заготлён па Хойніцкаму раёну т. Янкоўскага, як няспраўіўшагася з даручанай працай, вызваліць ад займаемай пасады. Часова да прызначэньня загадчыка Хойніцкай раённай канторы Заготлён, камандыраваць для работы ў Хойніцкае аддзяленьне Заготлён намесьніка загадчыка Рэчыцкай Канторы т. Хапчыка.

Папярэдзіць астатніх вышэйпамянёных загадчыкаў аддзяленьняў і райупаўнаважаных Заготлён, што калі яны і надалей будуць так адносіцца да выкананьня маіх загадаў і распараджэньняў, да іх буду ўжываць самыя суровыя меры спагнаньня.

Кіраўнік Беларускай Рэспубліканскай Канторы „Заготлён“
Вайновіч

**Плян сяўбы выканан усяго на 16,5 проц.**

**Асабліва адстаюць Сіроцінскі, Дубровенскі, Аршанскі, Гарадоцкі, Мсьціслаўскі, Талачынскі Крычаўскі, Шклоўскі, Чырвонапольскі, Веткаўскі, Церахаўскі і Кармянскі раёны**

| 20 красавіка 1933 г. | 25 красавіка 1933 г. | 1 мая 1933 г. | 5 мая 1933 г. |
|---|---|---|---|
| **27.690** | **84.692** | **228.805** | **416.331** |

**ЗВОДКА НКЗ БССР НА 5 МАЯ**

| Раёны | Засеяна ў процантах | Па сэктарох у га: Саўгас | Калгас | Аднаас. |
|---|---|---|---|---|
| **Паўночная зона** | | | | |
| Асьвейскі — — | 1,9 | — | 209 | 79 |
| Аршанскі — — | 1,2 | 84 | 720 | 15 |
| Бешанковіцкі — | 2,7 | 33 | 1011 | 112 |
| Віцебскі — — | 6,0 | 212 | 1865 | 73 |
| Вушацкі — — | 2,5 | — | 742 | 16 |
| Гарадоцкі — — | 1,5 | — | 362 | 27 |
| Дубровенскі— — | 1,0 | 1 | 342 | 1 |
| Дрысенскі — — | 4,1 | 49 | 1270 | 59 |
| Лёзьнянскі — — | 3,0 | 32 | 1366 | 19 |
| Лепельскі — — | 14,4 | 36 | 5369 | 221 |
| Полацкі— — — | 12,0 | 297 | 4695 | 661 |
| Расонскі — — | 5,7 | — | 1197 | 259 |
| Сураскі — — — | 1,9 | 42 | 361 | 125 |
| Сеньненскі — — | 9,4 | 141 | 3610 | 118 |
| Сіроцінскі — — | 0,6 | — | 217 | 14 |
| Чашніцкі— — — | 12,1 | 96 | 2923 | 140 |
| Усяго па зоне — | 4,9 | 1023 | 26760 | 1934 |
| **Цэнтральная зона** | | | | |
| Асіпавіцкі — — | 20,1 | 34 | 2368 | 1834 |
| Быхаўскі — — | 14,2 | 338 | 3289 | 3945 |
| Барысаўскі — — | 21,1 | 401 | 3760 | 3720 |
| Бялыніцкі — — | 19,8 | — | 4324 | 2158 |
| Бягомльскі — — | 16,9 | 29 | 2700 | 441 |
| Бярэзінскі — — | 13,2 | — | 3362 | 1271 |
| Горацкі — — — | 4,3 | 101 | 2641 | 628 |
| Заслаўскі — — | 19,9 | 138 | 3735 | 608 |

| Раёны | Засеяна ў процантах | Па сэктарох у га: Саўгас | Калгас | Аднаас. |
|---|---|---|---|---|
| Клімавіцкі — — | 13,1 | 128 | 5558 | 256 |
| Крунскі — — — | 5,8 | 44 | 1886 | 402 |
| Капыльскі — — | 36,0 | 740 | 9306 | 2792 |
| Касьцюковіцкі — | 14,8 | 307 | 7612 | 722 |
| Клічаўскі — — | 15,5 | 442 | 1876 | 2010 |
| Дзяржынскі — — | 16,7 | 184 | 5235 | 461 |
| Крычаўскі — — | 3,2 | — | 740 | 23 |
| Лагойскі— — — | 14,8 | — | 2349 | 1254 |
| Магілеўскі — — | 8,7 | 393 | 3116 | 1745 |
| Мсьціслаўскі— — | 1,3 | 20 | 598 | 24 |
| Менскі — — — | 24,4 | 1571 | 9203 | 1314 |
| Прапойскі — — | 8,9 | 87 | 2042 | 371 |
| Пухавіцкі — — | 21,7 | 127 | 5144 | 5532 |
| Смалявіцкі — — | 20,4 | 212 | 3479 | 2721 |
| Талачынскі — — | 2,2 | 129 | 900 | 73 |
| Чэрвеньскі — — | 18,1 | 488 | 2315 | 2514 |
| Чавускі — — — | 7,4 | — | 2354 | 1760 |
| Чэрыкаўскі — — | 12,5 | 1 | 3435 | 294 |
| Шклоўскі — — | 3,6 | — | 1620 | 456 |
| Плешчаніцкі — — | 14,2 | 75 | 2543 | 546 |
| Вузьдзенскі — — | 25,8 | 49 | 4642 | 1029 |
| Усяго па зоне— | 13,4 | 6038 | 101076 | 40904 |
| **Паўднёвая зона** | | | | |
| Брагінскі — — | 27,9 | 3 | 3860 | 1494 |
| Буда-Кашалеўскі— | 30,3 | 337 | 3631 | 2523 |
| Бабруйскі — — | 18,2 | 537 | 4289 | 5392 |
| Веткаўскі — — | 10,6 | 283 | 1994 | 1448 |
| Глускі — — — | 30,3 | 793 | 5672 | 4797 |

| Раёны | Засеяна ў процантах | Па сэктарох у га: Саўгас | Калгас | Аднаас. |
|---|---|---|---|---|
| Гомельскі — — | 28,3 | 1399 | 2996 | 2390 |
| Жыткавіцкі — — | 36,3 | 347 | 2318 | 1838 |
| Кармянскі — — | 17,6 | 108 | 2904 | 2910 |
| Камарынскі — — | 28,6 | 89 | 2157 | 903 |
| Жлобінскі — — | 29,7 | 156 | 5671 | 6082 |
| Ельскі — — — | 29,0 | 185 | 3303 | 1740 |
| Лоеўскі — — — | 18,2 | 86 | 3058 | 828 |
| Любаньскі — — | 36,2 | 267 | 4097 | 2753 |
| Лельчыцкі — — | 37,8 | 182 | 1959 | 3312 |
| Мазырскі — — | 32,3 | 1012 | 7153 | 4579 |
| Нараўлянскі — — | 20,3 | 168 | 1624 | 1908 |
| Парыцкі— — — | 45,4 | 161 | 5999 | 9176 |
| Пятрыкоўскі — — | 34,3 | 632 | 3294 | 6862 |
| Рагачоўскі — — | 31,3 | 723 | 5248 | 7890 |
| Рэчыцкі — — — | 33,2 | 759 | 4913 | 6571 |
| Слуцкі — — — | 57,3 | 842 | 15031 | 5965 |
| Старобінскі — — | 51,6 | 104 | 5209 | 6336 |
| Стара-Дароскі — | 28,3 | — | 2065 | 4026 |
| Тураўскі— — — | 53,9 | 96 | 2176 | 2409 |
| Церахаўскі — — | 14,8 | 163 | 3391 | 1187 |
| Чачэрскі— — — | 32,8 | 287 | 3636 | 2932 |
| Чырв.-Слабодзкі — | 56,5 | 292 | 4073 | 4562 |
| Чырвонапольскі — | 6,4 | 43 | 1367 | 599 |
| Уваравіцкі — — | 20,1 | 845 | 3413 | 1753 |
| Хойніцкі— — — | 27,2 | 622 | 3339 | 2081 |
| Усяго— — | 29,3 | 11761 | 120490 | 106345 |
| Па БССР — — | 16,5 | 18822 | 248326 | 149183 |

# ЗВОДКА

## адстаючых раёнаў па аднаасобнаму сэктару на 5-V-33 г.

### Паўночная зона.

| Адстаючыя | | Ідучыя наперадзі | |
|---|---|---|---|
| 1. Дуброўна | — 0,0007 проц. | 1. Полацкі | — 2,7 проц. |
| 2. Гарадок | — 0,01 „ | 2. Лепель | — 2 „ |
| 3. Ворша | — 0,05 „ | | |
| 4. Сіроцінскі | — 0,07 „ | | |

### Цэнтральная зона.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Мсьціслаўль | — 0,2 проц. | 1. Копыль | — 21 проц. |
| 2. Крычаўскі | — 0,2 „ | 2. Пухавічы | — 17 „ |
| 3. Талочын | — 0,3 „ | 3. Смалявічы | — 15 „ |
| 4. Шклоўскі | — 1,2 „ | 4. Асіпавічы | — 14 „ |
| 5. Крупскі | — 2 „ | 5. Клічаў | — 14 „ |
| 6. Горацкі | — 2,5 „ | 6. Чэрвень | — 14 „ |
| 7. Клімавіцкі | — 2,2 „ | | |

### Паўднёвая зона.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Чырвонапольскі | 3 проц. | 1. Чырвоная Слабада | 60 проц. |
| 2. Церахоўскі | — 5,6 „ | 2. Старобін | — 52 „ |
| 3. Ветка | — 6,2 „ | 3. Тураў | — 46,3 „ |
| 4. Лоеў | — 7,4 „ | 4. Парычы | — 39 „ |
| | | 5. Петрыкаў | — 31 „ |
| | | 6. Лельчыцы | — 30,9 „ |

Сярэдняя па БССР на 5-V-33 г. — 11,9 проц.
„ „ на 30-IV — 5,3 „

# ЗВОДКА

## сяўбы па калгасах на 5-V-33 г.

### Паўночная зона — сярэдні проц. — 8,1.

**Раёны, якія адстаюць**

1. Сіроцінскі — 1,1 проц.
2. Дубровенскі — 1,9 „
3. Аршанскі — 1,9 „
4. Гарадоцкі — 2,4 „
5. Асьвейскі — 3,0 „
6. Сураскі — 3,2 „
7. Лёзьнянскі — 3,9 „
8. Ушацкі — 4,3 „
9. Дрысенскі — 6,5 „
10. Бешанковіцкі — 6,7 „

**Раёны, якія ідуць наперадзі**

1. Лепельскі — 19,7 проц.
2. Чашніцкі — 19,3 „
3. Полацкі — 19,2 „

### Цэнтральная зона — сярэдні проц. — 19,4.

1. Мсьціслаўскі — 1,6 проц,
2. Талочынскі — 4,1 „
3. Крычаўскі — 5,4 „
4. Горацкі — 5,7 „
5. Шклоўскі — 6,1 „
6. Крупскі — 9,5 „
7. Чавускі — 11,6 „
8. Прапойскі — 14,1 „
9. Магілеўскі — 15 „
10. Клімавіцкі — 17,5 „

1. Капыльскі — 45,5 проц.
2. Узьдзенскі — 41,8 „
3. Менскі — 39,1 „
4. Барысаўскі — 34,1 „

### Паўднёвая зона — сярэдні проц. — 41,0.

1. Краснапольскі 10,2 проц.
2. Веткаўскі — 19,0 „
3. Кармянскі — 21,4 „
4. Церахоўскі — 29,2 „
5. Уваравіцкі — 30,4 „
6. Лоеўскі — 30,6 „
7. Нараўлянскі — 32,0 „
8. Бабруйскі — 32,8 „
9. Хойніцкі — 36,9 „
10. Старадароскі — 37,0 „

1. Слуцкі — 67,1 проц.
2. Тураўскі — 63,7 „
3. Парыцкі — 61,2 „
4. Чырв.-Слабодзкі 59,8 „
5. Старобінскі — 59,0 „

Агульны процант пасева па калгаснаму сэктару па БССР па становішчы на 5-V выяўляецца — 21,8 проц.

ПЛЯН СЯЎБЫ ВЫКАНАН НА 27,7 проц.

**Асабліва адстаюць Гарадоцкі, Дубровенскі, Аршанскі, Мсьціслаўскі, Талачынскі, Горацкі, Прапойскі, Крупскі, Чырвонапольскі, Церахоўскі, Камарынскі, Нараўлянскі і Веткаўскі раёны**

| 25 КРАСАВ. 33 г. | 1 МАЯ 1933 г. | 5 МАЯ 1933 г. | 10 МАЯ 1933 г. |
|---|---|---|---|
| 84.692 | 228.805 | 416.331 | 698.586 |

## ЗВОДКА Н. К. З. Б. С. С. Р. НА 10-га МАЯ

| Раёны | Засеяна ў проц. да пляну | Па сэктарох у га: Саўгасы | Калгасы | Аднаасобнікі |
|---|---|---|---|---|
| **Паўночная зона** | | | | |
| Асьвейскі — — | 3,3 | 3 | 362 | 134 |
| Аршанскі — — | 2,1 | 207 | 1100 | 24 |
| Бешанковіцкі — | 10,0 | 101 | 2990 | 1067 |
| Віцебскі — — — | 6,8 | 353 | 1966 | 101 |
| Вушацкі — — — | 7,5 | — | 2148 | 154 |
| Гарадоцкі — — | 1,5 | — | 862 | 27 |
| Дубровенскі — — | 1,7 | 89 | 464 | 3 |
| Дрысенскі — — | 6,7 | 20 | 1993 | 155 |
| Лёзьнянскі — — | 16,6 | 217 | 7092 | 443 |
| Лепельскі — — | 21,7 | 172 | 7699 | 630 |
| Полацкі — — — | 20,3 | 602 | 6900 | 1777 |
| Расонскі — — — | 8,8 | — | 1630 | 621 |
| Суражскі — — | 4,8 | 44 | 949 | 351 |
| Сеньненскі — — | 18,3 | 255 | 6589 | 303 |
| Сіроцінскі — — | 4,0 | 22 | 1334 | 230 |
| Чашніцкі — — | 19,8 | 136 | 4322 | 476 |
| УСЯГО — — | 9,5 | 2221 | 48400 | 6496 |
| **Цэнтральная зона** | | | | |
| Асіпавіцкі — — | 29,2 | 40 | 3113 | 2970 |
| Быхаўскі — — | 26,4 | 612 | 4962 | 8156 |
| Барысаўскі — — | 47,7 | 1180 | 5959 | 9993 |
| Бялыніцкі — — | 21,0 | — | 4454 | 2222 |
| Бягомльскі — — | 26,2 | 141 | 3733 | 960 |
| Бярэзінскі — — | 28,5 | 117 | 4868 | 4806 |
| Горацкі — — — | 9,7 | 272 | 3340 | 1635 |
| Заслаўскі — — | 33,6 | 152 | 5715 | 1203 |
| Клімавіцкі — — | 22,7 | 93 | 9234 | 740 |
| Крупскі — — — | 16,9 | 44 | 4654 | 1706 |
| Капыльскі — — | 48,5 | 145 | 12218 | 4688 |

| Раёны | Засеяна ў проц. да пляну | Па сэктарох у га: Саўгасы | Калгасы | Аднаасобнікі |
|---|---|---|---|---|
| Касьцюковіцкі — | 27,4 | 68 | 12825 | 1811 |
| Клічаўскі — — | 30,2 | 699 | 3125 | 3587 |
| Дзяржынскі — — | 31,6 | 381 | 8613 | 1055 |
| Крычаўскі — — | 17,6 | 194 | 3323 | 344 |
| Лагойскі — — — | 24,5 | — | 3551 | 2106 |
| Магілеўскі — — | 25,8 | 1320 | 8185 | 5744 |
| Мсьціслаўскі — | 4,7 | 122 | 2053 | 75 |
| Менскі — — — | 43,9 | 2707 | 13216 | 4136 |
| Пухавіцкі — — | 44,0 | 512 | 8525 | 11416 |
| Прапойскі — — | 16,0 | 213 | 3306 | 697 |
| Смалявіцкі — — | 42,2 | 794 | 5607 | 6065 |
| Талачынскі — — | 5,8 | 273 | 2208 | 219 |
| Чэрвеньскі — — | 43,3 | 873 | 4013 | 6936 |
| Чавускі — — — | 17,6 | — | 4762 | 4599 |
| Чэрыкаўскі — — | 20,4 | 1 | 5180 | 560 |
| Шклоўскі — — | 17,4 | — | 6004 | 4041 |
| Вузьдзенскі — — | 43,3 | 122 | 6570 | 2493 |
| Плешчаніцкі — — | 29,1 | 612 | 3933 | 1653 |
| УСЯГО — — | 26,2 | 11687 | 167249 | 96626 |
| **Паўднёвая зона** | | | | |
| Брагінскі — — | 40,4 | 3 | 4986 | 2601 |
| Б.-Кашалёўскі — | 40,3 | 315 | 4401 | 3684 |
| Бабруйскі — — | 35,4 | 1119 | 6415 | 11893 |
| Веткаўскі — — | 33,4 | 1083 | 4260 | 5684 |
| Глускі — — — | 45,2 | 1142 | 7262 | 7355 |
| Гомельскі — — | 46,3 | 2646 | 4097 | 4031 |
| Жыткавіцкі — — | 58,6 | 308 | 3256 | 3989 |
| Карміянскі — — | 41,4 | 342 | 5340 | 7652 |
| Камарынскі — — | 30,3 | 89 | 2157 | 903 |
| Жлобінскі — — | 44,2 | 432 | 6999 | 9435 |
| Ельскі — — — | 36,1 | 241 | 3662 | 2454 |
| Лоеўскі — — — | 35,2 | 106 | 4963 | 2506 |

| Раёны | Засеяна ў проц. да пляну | Па сэктарох у га: Саўгасы | Калгасы | Аднаасобнікі |
|---|---|---|---|---|
| Любаньскі — — | 51,9 | 234 | 5202 | 4780 |
| Лельчыцкі — — | 45,9 | 231 | 2216 | 4168 |
| Мазырскі — — | 43,5 | 1616 | 8540 | 6965 |
| Нараўлянскі — | 31,4 | 216 | 2516 | 3005 |
| Парыцкі — — | 62,6 | 197 | 7465 | 13264 |
| Пятрыкоўскі — | 46,8 | 895 | 3978 | 8564 |
| Рагачоўскі — — | 51,5 | 637 | 6962 | 14485 |
| Рэчыцкі — — | 43,8 | 789 | 6210 | 9129 |
| Слуцкі — — | 75,7 | 886 | 19233 | 8002 |
| Старобінскі — | 69,3 | 197 | 6644 | 7894 |
| С-Дароскі — | 42,7 | 22 | 2912 | 6085 |
| Тураўскі — — | 71,2 | 77 | 2563 | 3471 |
| Церахаўскі — | 15,5 | 163 | 3891 | 1187 |
| Чачэрскі — — | 43,7 | 333 | 4549 | 4314 |
| Ч.-Слабодзкі — | 77,9 | 133 | 5288 | 6034 |
| Ч.-Польскі — — | 6,6 | 43 | 1367 | 599 |
| Уваравіцкі — — | 37,8 | 1316 | 4485 | 3968 |
| Хойніцкі — — | 40,6 | 646 | 3821 | 3549 |
| УСЯГО — | 43,7 | 16457 | 155640 | 171650 |
| Па БССР | 27,8 | 30365 | 371289 | 273813 |
| Па НКСаўг. | 25,6 | | | |
| Па БССР | 27,7 | | | |

# ЗЬМЕСТ



---

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭкАСА БССР Зак. 470—1000 Уп. Галоўлітбелу № В. 1787

